# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1503) ГОД XXX БЕЛАСТОК 3 САКАВІКА 1985 г. ЦАНА 8 зл.

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## МІХАЛ ШПАКОВІЧ

Каб зрабіць пералік заслужаных людзей, якія многа зрабілі для развіцця Белавежы і наогул цэлай гміны, нельга было б абмінуць Міхала Шпаковіча. Гэтага чалавека ведаюць тут усе. У сваім асяроддзі карыстаецца ён вялікай пашанай. Гэта грамадскі і палітычны дзеяч. Амбітны, рашучы, энергічны, заўжды поўны волі дзеяння.

М. Шпаковіч нарадзіўся 17 мая 1925 г. у Белавежы, у сям'і малазямельнага селяніна. Меў двух братоў. Бацька займаўся працай на полі і ў лесе. Маці вяла дамашняе гаспадарства. У пачатковую школу малы Міхал пайшоў у 1932 г. Неўзабаве аказаўся найлепшым вучнем. Калі набліжаўся канец вучобы, дырэктар школы Рудольф Здажыль паклікаў бацьку Міхала і стаў намаўляць яго, каб згадзіўся выслаць сына на далейшую вучобу ў механічную гімназію, што ў Беластоку. Бацька згадзіўся і павёз Міхала на экзамен. Найлепшы вучань белавежскай школы не падвёў. Экзамен здаў і быў прыняты на

(Працяг на стар. 8)



## З ПОГЛЯДАМ У БУДУЧЫНЮ

Семінар літаратурна-мастацкай секцыі пры ГП БГКТ „Белавежа", які адбыўся 2 лютага г.г., закрануў найважнейшыя праблемы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

Ужо адкрываючы семінар, дагэтуляшні старшыня „Белавежы" Алесь Барскі заўважыў, што такія імпрэзы ГП БГКТ не можа праводзіць часта, бо не мае на гэта адпаведных грашовых сродкаў. Але нягледзячы на гэтыя і шэраг іншых цяжкасцей, беларускі літаратурны рух у Польшчы жывы і плённы.

Узнікаюць рэальныя магчымасці ў бліжэйшым часе стварыць беларускую секцыю СПП.

М. Шаховіч у сваім дакладзе звярнуў увагу на тое, што на працягу 26 год існавання „Белавежы" на 309 літаратурных старонках у „Ніве" было апублікавана больш за 3 тысячы твораў „белавежцаў", у тым ліку ў 1984 г. паявілася ў ёй 73 творы, з іх 10 празаічных. Аднак і праблемаў у нашым руху многа. Перш за ўсё мы не патрапілі выпрацаваць свае выразнай самастойнасці, адметнасці ў тэматыцы і яе мастацкім адлюстраванні.

У наш літаратурны рух прыходзіць многа моладзі, але пасля болей ці меней удалага дэбюту яна заціхае і цалкам адыходзіць з яго. Значыць, у нас слаба пастаўлена праца з пачынаючымі аўтарамі, надта слаба развіта або і зусім няма сістэматычнай, кампетэнтнай літаратурнай крытыкі, якая б дапамагала маладым аўтарам у шуканні ўласнай творчай дарогі і ўдасканальванні пісьменніцкага майстэрства. У выніку нашых занядбанняў у „Белавежы" не гуртуюцца мастакі, хоць гэтая секцыя і называецца літаратурна-мастацкай, а поле для дзеяння мастакоў у нас шырокае і ва ўзбагачэнні „Нівы" і ў графічным афармленні нашых выданняў.

У дыскусіі падкрэслівалася неабходнасць стварэння ў „Белавежы" прыяцельскай, сяброўскай атмасферы, якая б гуртавала нас у адну сям'ю, пазбягання непатрэбных спрэчак і сварак, бо яны не будуюць, а руйнуюць наша асяроддзе. Добра было б, калі б удалося заснаваць Клуб беларускіх пісьменнікаў у Польшчы, а таксама стварыць своеасаблівае літаратурна-мастацкае кафэ — усё гэта спрыяла б умацаванню нашага творчага асяроддзя. Была пададзена прапанова ўтварэння з добраахвотных складчын „белавежцаў" своеасаблівага літаратурнага фонда, з якога можна

(Працяг на стар. 6)

## II ПЛЕНУМ ГП БГКТ

10 лютага адбылося другое пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ. Першая яго частка была ўрачыстая. Групе дзеячоў БГКТ былі прызнаны ўзнагароды. Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы атрымалі: Аляксандр Іванюк з Гайнаўкі — дырэктар беларускага ліцэя і Люба Гаўрылюк з Беластока — вядомая салістка. Залаты Крыж Заслугі: Надзея Парэмбская з Гарадка — член харавога калектыву, Бронзавы Крыж Заслугі: Яніна Налівайка і Галена Кот з Гарадка — члены харавога калектыву, а таксама Аляксандр Раманюк з Дубяжына — вядомы выканаўца беларускіх песень.

Залаты значок „Заслужаны для Беласточчыны": Вера Рышчук з Бельска — настаўніца беларускай мовы з ліцэя імя Тарашкевіча, Васіль Сакоўскі з Гайнаўкі — настаўнік беларускай мовы ў гайнаўскім ліцэі, Янка Крупа з Беластока, спецыяліст па мастацкай самадзейнасці, Ян Назарка — пенсіянер з Міхалова.

Сярэбраны значок „Заслужаны для Беласточчыны" атрымалі: Марыя Леанчук з Беластока — штатны працаўнік ГП і Аляксандр Лукашук з Гайнаўкі — мастацкі кіраўнік гайнаўскага хору. Узнагароды уручаў сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, намеснік старшыні Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку Мікалай Казак.

Залаты значок ТППР намеснік старшыні ваяводскага праўлення ТППР Язэп Трусевіч уручыў Аляксандру Лукашуку з Гайнаўкі і Аляксею Карпюку з Бельска — дырэктару Беларускага ліцэя. Ад імя ўзнагароджаных дзякаваў Аляксандр Іванюк.

* *

Наступная частка пленума была рабочая. Старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі выступіў з абшырнай інфармацыяй адносна рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ на працягу мінулых дзевяці месяцаў.

— Характарызаваўся гэты перыяд у нашай арганізацыі далейшым удасканальваннем метадаў і формаў працы, якая праяўлялася ў падрыхтоўцы і правядзенні народных фэстаў БГКТ, у супрацоўніцтве са школамі і культурна-асветнымі ўстановамі. У апошнім часе прыступілі мы да змены арганізацыйнай структуры БГКТ, распачалі кампанію стварэння аддзелаў БГКТ і ў сувязі з гэтым кіруем просьбу да нашых актывістаў, каб дзейсна дапамаглі ў гэтай важнай кампаніі, — гаварыў Аляксандр Баршчэўскі. — Асабліва вялікія заданні стаяць перад усімі намі ў галіне разбудовы арганізацыі. Няхай кожны член БГКТ дасць з сябе максімум намаганняў, каб хаця б адну асобу заахвоціць да ўступлення ў рады БГКТ — гэта ўжо была б вялікая справа для нашай арганізацыі. Не меншыя заданні стаяць перад намі ў справе павелічэння падпісчыкаў нашага прэсавага органа — тыднёвіка „Ніва".

Старшыня ГП закрануў усе дзялянкі дзейнасці Беларускага таварыства. Выказаў сардэчную падзяку ўдзельнікам мастацкіх калектываў, якія нястомна прапагандуюць беларускае слова, песню, музыку.

Пасля даклада распачалася

(Працяг на стар. 2)

НА МЯЖЫ

# АБ ПАЖАРАХ

**Пажар — адно з найбольш грозных і злавесных слоў. Ад вякоў выклікаў пачуццё жаху ў чалавечай душы. І не можа быць па-другому, калі на працягу некалькіх дзесяткаў мінут ідзе з дымам тое, што будавалася на працягу многіх гадоў. Асаблівы боль узнікае ў чалавечым сэрцы тады, калі на нашых вачах гінуць каштоўнасці, якія з'яўляліся ўласнасцю вялікіх чалавечых абшчын, а калі гаварыць дакладней, дык уласнасцю ўсёй беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Маю на думцы цэрквы. Не ведаю, колькі цэркваў з усходняй Беласточчыны было знішчана ў часе другой сусветнай вайны. Напэўна згарэла ў Ялоўцы, ведаю, бо ў ёй я быў хрышчаны. Зрэшты, тое, што былі знішчаны цэрквы ў часе вайны, у нейкай ступені натуральнае, чаго нельга ў ніякім выпадку сказаць аб пажарах святынь у мірны час.**

**Думаю, што ў ніякім выпадку Народнай Польшчы нельга закінуць не толькі варожых, але і абыякавых адносін да сакральнага будаўніцтва. Нягледзячы на вялікія клопаты з будаўнічымі матэрыяламі, цэрквы атрымоўваюць тое, што неабходнае для іх рамонтаў, таму стан цэркваў на ўсходняй Беласточчыне наогул добры.**

**І тут бяда. Ад часу да часу гараць на Беласточчыне цэрквы. Згарэла царква ў Клейніках, згарэла ў Крушынянах, і ўрэшце новы ўдар — згарэла царква ў Чыжах. У дзвюх з гэтых цэркваў я быў — у клейніцкай і ў чыжоўскай. Мушу прызнацца, што і адна і другая выклікалі ў мяне вялікае ўражанне. Было ў іх тое, што можна было б назваць душою нейкае непаўторнасці, нешта жывое, тое, што мабыць можа атрымаць або здабыць будынак праз многія, многія гадоў кантакту з жывымі людзьмі, з іх надзеяй і верай. Не думаю, каб новазбудаваная царква, нягледзячы на тое, як прыгожыя будуць яе сцены, магла адразу ўзбагаціцца такімі ўласцівасцямі, якіх, быць можа, трэба чакаць сотні гадоў.**

**Клейніцкая і чыжоўская цэрквы былі ўнікальныя. У клейніцкай знаходзілася вельмі рэдкая драўляная разьба, у чыжоўскай — унікальныя малюнкі. Ужо нікому не ўдасца рэканструяваць таго, што ў іх было, а калі б і ўдалося, дык гэта ўжо не будзе тое самае. Значыць, бясцэнныя мастацкія каштоўнасці пайшлі з дымам.**

**Зразумела, што такая трагічная падзея, як пажар і знішчэнне вялікіх каштоўнасцей, выклікаюць заўсёды домыслы, дыскусіі, пошукі прычын таго, што сталася. Трэба сказаць, што пры**

(Працяг на стар. 7)

# II ПЛЕНУМ ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

ажыўленая дыскусія, якая закранула шэраг пытанняў.

Міхась Дулько з Белавежы гаварыў аб неабходнасці ўшанавання былых дзеячоў рабочага руху.

— Ганарымся мы сваім белавежцам генералам Аляксандрам Вашкевічам, які загінуў у Германіі, дабіваючы ворага на яго зямлі. Яго імем названа галоўная вуліца ў Белавежы. Хочам мы назваць яшчэ дзве вуліцы імем былых КПЗБ-оўцаў і адну вуліцу імем удзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Валянціна Ласкевіч з Беластока расказала аб працы гарадскога гуртка БГКТ, аб яго захадах адносна навучання ў школах беларускай мовы, адносна ўтварэння эстраднай групы. Гарадскому гуртку ў Беластоку павінен прысвячаць больш увагі апякун ад імя Прэзідыума ГП.

Хведар Галёнка з Варшавы падкрэсліў вялікія заслугі Мікалая Алексеюка — старшыні Варшаўскага гуртка. Пад яго кіраўніцтвам праўленне гуртка патрапіла з'яднаць старэйшае і маладзейшае пакаленне. Цяпер усе супольна, згодна ўключаюцца ў культурна-асветную працу. Асабліва добра пастаўлена ў Варшаве лектарская праца. Адбываецца многа цікавых дакладаў.

Варта сказаць таксама аб тым, што гуртак звярнуўся да многіх прадпрыемстваў і ўстаноў з просьбаю пераказаць свае ахвяраванні на будову Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Некаторыя ўстановы ўжо станоўча адгукнуліся на гэту просьбу.

Аляксандр Іванюк з Гайнаўкі прысвяціў сваё выступленне будове памяшкання для беларускага ліцэя і пачатковай школы, гаварыў аб вялікіх цяжкасцях, звязаных з гэтым. Апрача школьных спраў, звярнуў увагу і на тое, што варта было б устанавіць значок „Заслужаны дзеяч БГКТ". Гаварыў ён, што трэба спяшацца са зборкай экспанатаў матэрыяльнай культуры для будучага музея, бо яны з розных прычын гінуць беспаваротна.

Аляксандр Іванюк выказаў таксама вельмі цікавую думку, каб пры вадасховішчы ў Семяноўцы ўтварыць рэкрэацыйны асяродак БГКТ. Гэтую думку падтрымаў у сваім заключным выступленні старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

Аляксандр Рафаловіч з Саколкі паінфармаваў удзельнікаў пленума аб вялікім зацікаўленні дзейнасцю БГКТ на Сакольшчыне і Дуброўшчыне. Падкрэсліў ён таксама ролю сістэматычнага аплачвання членскіх складчын. „У раёнах сакольскім і дуброўскім, — падкрэсліў ён, — членскія складчыны за мінулы год аплачаны ў ста працэнтах, а вось на Гайнаўшчыне і Бельшчыне, дзе столькі актывістаў, членскія складчыны рэалізаваны ў 20-30 працэнтах".

Віктар Бура і Васіль Сакоўскі з Гайнаўкі, а таксама Уладзімір Юзвюк з Беластока гаварылі аб адной публікацыі „Нівы", якая выклікала некаторыя эмоцыі.

Кастусь Майсеня — намеснік старшыні ГП БГКТ пазнаёміў прысутных з некаторымі бягучымі справамі гаспадарча-камунальнага характару. Нядаўна памяшканне ГП падключана да сеці электрацяплоўні. Рыхтуецца дакументацыя на капітальны рамонт памяшкання ГП і распачнецца ён у бягучым годзе. У 30 працэнтах ужо зроблена дакументацыя на музей. І іншыя справы. Ваяводскі дом культуры прызнаў дзве штатныя адзінкі па 9 тыс. злотых для будучага эстраднага калектыву. На рахунак будовы музея пераказана грамадствам 280 тыс. зл і 400 долараў.

Іван Хіліманюк з Гайнаўкі і Мікалай Алексяюк з Варшавы запрапанавалі, каб на кожным пленарным пасяджэнні ГП стаяла інфармацыя аб працы Прэзідыума і яго членаў у часе між пленумамі.

Камісія прапаноў у складзе: Аляксандр Іванюк, Іван Хіліманюк і Хведар Галёнка — звярнулася да прысутных з просьбаю, каб даць ёй магчымасць належна падрыхтаваць прапановы і прадставіць іх у пазнейшым часе. Просьба была адобрана. Члены пленума пастанавілі сабрацца на чарговае пасяджэнне не пазней, як пад канец чэрвеня.

Пленум вёў намеснік старшыні ГП Янка Зенюк. Удзельнічаў у пленуме таксама дырэктар грамадска-адміністрацыйнага аддзела ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку Казімеж Канопка.

**Міхась Хмялеўскі**

## ВЕСТКІ з БССР

### УСТАНОЎЛЕНЫ АБЕЛІСК

У ходзе падрыхтоўкі да 40-годдзя Перамогі ў памятных мясцінах ратнай славы Брэсцкага раёна ўстаноўлены 33 мемарыяльныя дошкі і пліты. Яны ўвекавечылі памяць больш чым 900 загінуўшых воінаў, партызан і падпольшчыкаў, мірных грамадзян, расстраляных фашысцкімі акупантамі.

Адзін з мемарыяльных знакаў з'явіўся на вуліцы імя Героя Савецкага Саюза М. Аляксандрава ў цэнтральным пасёлку калгаса „За мір". Вызваляючы тутэйшую вёску Страдзеч, 25 ліпеня 1944 года былы селянін са Смаленшчыны яфрэйтар Аляксандраў першым пераправіўся з кулямётам цераз Заходні Буг і цаною жыцця ўтрымаў плацдарм да падыходу асноўных сіл.

На магіле героя і яго 73 аднапалчан у цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск.

### ПРАЖА З ГРАНУЛ

Расшырыць асартымент і павялічыць выпуск многіх відаў тэкстыльнай прадукцыі — назначэнне новай буйной вытворчасці, якая здадзена ў эксплуатацыю ў магілёўскім аб'яднанні „Хімвалакно".

Комплекс спецыялізуецца на вырабе поліэтылентэрэфталату ў гранулах — сыравіны для фарміравання лаўсанавых ніцей, якія выкарыстоўваюцца ў якасці дабавак пры вытворчасці касцюмных, плашчэвых, парцьерных, а таксама тэхнічных тканін і іншых вырабаў. Яго гадавая магутнасць — амаль 70 тысяч тон прадукцыі. Тут устаноўлены тэхналагічныя лініі, якія амаль на трэць больш прадукцыйныя за існуючыя ў Аб'яднанні і забяспечваюць больш высокую якасць палімеру.

### СПОРТ

■ З удзелам групы мацнейшых лёгкаатлетаў краіны прайшоў у Мінску мемарыял памяці экс-чэмпіёнаў Еўропы па скачках з шастом Уладзіміра Булатава.

Сярод пераможцаў гэтых прэстыжных спаборніцтваў некалькі выдатных вынікаў па ліку беларускіх спартсменаў. Так, Генадзь Валюкевіч быў мацнейшым у трайным скачку — 17 метраў 6 сантыметраў. А Уладзімір Будзько ўстанавіў новы рэкорд Беларусі ў бегу на 400 метраў — 47,2 секунды.

■ Лепшы вынік сезона ў свеце на міжнародных спаборніцтвах канькабежцаў у Швейцарыі паказаў мінчанін Ігар Жалязоўскі. Дыстанцыю 1 500 метраў ён закончыў за 1 мінуту 53,47 секунды. Гэта толькі на 0,21 секунды горш за сусветны рэкорд.



Беларускі балет. Сцэна з балету Р. Шчадрына „Кармен-сюіта". Выканаўцы загаловачных партый Кармен і Эскамільо Таццяна Яршова і Сяргей Пясцехін.

# У ЛІТАБ'ЯДНАННІ

7 лютага г.г. праўленне літаратурнага аб'яднання „Белавежа" намеціла напрамкі дзейнасці і прыняла планы працы на гэты год.

У наступным годзе плануецца правядзенне навуковай сесіі, прысвечанай беларускаму літаратурнаму руху ў ПНР (30 год). Матэрыялы з гэтай сесіі маюць увайсці ў чаргови альманах „белавежцаў", які ўшанаваў бы 30-ю гадавіну стварэння аб'яднання.

З мэтай ажыўлення літаратурных сустрэч, праўленне прапануе праводзіць іх не паадзіночнымі аўтарамі, а групамі аўтараў, асабліва ў школах.

Вялікая ўвага была звернута на літаратурныя семінары. У гэтым годзе мае адбыцца іх чатыры, першы — ужо ў сакавіку.

Апрача штогадовых з'ездаў, плануюцца таксама літаратурныя пленеры, першачарговым заданнем якіх было б умацаванне сяброўскіх сувязей і паглыбленне кантакту з асяроддзем.

Каб дапамагчы пачаткоўцам у іх творчым станаўленні, праўленне вызначыла літаратурных кансультантаў, якія будуць працаваць на грамадскіх пачатках. У кожны першы чацвер месяца будуць яны несці ў нашай рэдакцыі дзяжурствы (ад 11 да 12 гадз.) і даваць наведвальнікам патрэбную кансультацыю. Можна таксама звяртацца да іх пісьмова. У гэтым выпадку трэба пісаць на адрас „Нівы". Кансультанты Юрка Зубрыцкі і Ян Чыквін — паэзія; Мікола Гайдук і Сакрат Яновіч — проза; Ада Чэчуга — мова.

(рл)

## ПАСТАРНАСЦЬ НЕПАСТАРНАГА

399

Фундаментам тэорыі Эйнштэйна з'яўляецца буквар.

400

Без першых літар у буквары не было б апошніх міжпланетных подзвігаў.

401

Пахвальнае ў твой адрас прапускай міма вушэй, крытычнае бяры ў вушы.

402

Не адкідвай кнігі, якая табе не падабаецца, ты ж таксама не ўсім падабаешся.

403

Горды чалавек адносіцца да кнігі з пакорай.

404

Там, дзе ад людзей хаваюць кнігі, — хаваюць ад іх праўду.

405

Калі прагнеш спакою —
чытай кнігу;
Калі прагнеш трывогі —
чытай кнігу;
Калі прагнеш абыякавасці —
не чытай кнігі.

406

Нячытаная кніга — мёртвая мудрасць.

407

Кніга вырывае з глебы чалавечай душы пустазелле і сее на ёй кветкі і збожжа.

408

Чалавек, які многа чытае, не хваліцца колькасцю прачытаных кніг.

Алесь Барскі


# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 310


## Дэбют

## ЛЮСЯ АНХІМ



*Нарадзілася я сярод шуму дрэў і спеву птушак у 1966 г., 10 красавіка, у вёсцы Калясное. Бацька мой быў селянінам, мама памагала ў гаспадарцы. У маёй сям'і я наймалодшая. У мяне яшчэ дзве сястры.*

*Вясной 1972 г. памёр мой бацька, праз год — старэйшы брат Янка. Гэта былі страшныя дні.*

*Восенню 1972 г. пайшла я ў першы клас у пачатковую школу ў Адрынках. Там закончыла сем класаў, а ў восьмы клас хадзіла ў школу ў Новую Волю.*

*Настаў час, калі трэба было рашаць: вучыцца далей, ці мо астацца з мамай. Вучылася я на пяцёркі і чацвёркі і думала аб тым, каб у будучыні стаць настаўніцай. І пайшла вучыцца далей. Ад 1981 г. вучылася ў Эканамічным ліцэі ў Бельску, аднак штосьці цягнула мяне ў Беларускі ліцэй. Мае думкі і вочы былі накіраваны туды. Закончыўшы першы клас Эканамічнага ліцэя, перайшла я ў Беларускі ліцэй у другі клас.*

*Цяпер я вучаніца чацвертага класа нашага ліцэя. У будучыні хачу вучыць дзяцей — хачу працаваць сярод іх і для іх. Таму я вырашыла паступаць на аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Я вельмі люблю сваю мову — ёй павучыў мяне мой бацька.*

*Люся Анхім*

### КАЛІ ПЫТАЮЦЬ

Калі пытаюць
Куды ты йдзеш? —
Адказвай:
У школу.
Калі пытаюць:
У якую? —
Адказвай:
У Беларускую.
Калі пытаюць:
Ці добра там? —
Адказвай:
Як у роднай маці.

### ЯНА

Стаяла дзесьці далёка
за імглой,
Стаяла дзесьці далёка
за ракой,
Стаяла дзесьці далёка
за зялёным мурам,
Стаяла дзесьці далёка
за вялікім лесам,
Стаяла дзесьці далёка
за раніцай,
Стаяла дзесьці далёка
за вечарам,
Стаяла дзесьці далёка,
Смяялася...
Вясёлымі былі
імгла,
зялёны луг,
рака,
вялікі лес,
і раніца,
і вечар.

### ЯНО АДНО

Ідуць шэрыя
хмурныя дні.
Сэрца ападае,
як лісточкі з дрэў.
Назбірала іх многа,
а сэрца адно.
Ідзе дождж, ідзе дождж
вялікі, вялікі,
Разлівае лужыны
па дарогах.

Пройдуць шэрыя дні,
Пройдуць дажджы,
А сэрца, яно адно
Астанецца.

* * *

варажыць на час расставанняў
месцы астаюцца і ідуць разам з намі
смешна-так-стаяць з бестурботным снегам
не чакаць вясны

глянуць у белы сон
дзе маўчыць чорнае карэнне адзінокага дрэва
перадумаць
як цяпер

**Н. Артымовіч**

* * *

як нэсмэртэльны замагаем прыкоснутісь тайны
як любоўнікі зобачыты сёмэ нэбо хочэм
ступіті по сухуом лісткові
— пройті
шчэ кортіт
судьбою затройкотаті як барабан
на сьміэтнікові масок
появітісь
— втопітісь
настояшчо встріэтітісь
знэволяны прывычкамі
— допкалі
дэ нэ уміэлі кляскаті
нэзаміэтно з сонцём
ішлі в смэрть

**З. Сачко**

* * *

Зноў адзіноцтва
блізкае сталася чужым.
Замерла кроў у жылах.
Чаму?
. . . . . . . . . . .
Аддаляемся ад сябе, як бяздомныя людзі.

**Жэня Мартынюк**











*Янку*

Цябе люблю
мой мілы хлопец
мой вечны хлопец
што ляцеў на лебедзях
у край далёкі

Нам крылы белыя
нам хмараў пух
на вочы ясныя
на плынь вады
над жоўтым гравіем
і неспакойны шэлест дзён
лісточкаў на асіне

І ўсё бліжэй мы
веснічаў вясны
мой хлопец лебядзіны

**Міра Лукша**

### ФЛІРТУСЬ

— Ты — цаца!
— І ты — цаца!

— Будзем кахацца?
— Давай, Каця!

Цыцы выцвілі.
Цап
і
мац, мац.

Кіця падае
жаць.
Благадаць.

— Ах, ах, ах!
Пажарх!

Лоб у лоб
ляжаць.

Цё
зацвіло б...

**Ян Чыквін**




# Шырэй раскрыць таямніцы!

Не толькі са шчырым зацікаўленнем чытаю, але таксама з добрымі вынікамі прымяняю на сабе парады з „Таямніц навокал нас" д-ра Б. Паскробкі. Гэта ж праўдзівая скарбніца ведаў пра лячэбныя ўласцівасці і практычную прыгоднасць раслін (і жывёл), якія акружаюць нас! Гэтыя артыкулы асабліва карысны сёння, калі людзі надта ж адчужыліся ад свайго натуральнага асяроддзя, захапіліся рознымі штучнасцямі. Па-першае, глытаем мы (трэба ці не трэба) безліч разнастайных таблетак, бо і лякарствы, і супы ды прыправы да іх — усё ў таблетках. Па-другое, з тымі ж лякарствамі цяпер немалыя цяжкасці: за абы-якім сіропікам ад кашлю, трэба паломнічаць з аптэкі ў аптэку. А тут — пайдзі ў поле ці ў лес, працягні руку і нарыхтуеш лекаў калі ўжо не самых дзейсных, то ўсё ж надта добрых. Па-трэцяе, розныя забытыя старадаўнія народныя стравы і прыправы — гэта ж таксама лек і для цела і для душы. Па-чацвёртае... Ну, але спынюся, бо гэтае пералічэнне практычных карысцяў з артыкулаў д-ра Б. Паскробкі не змяшчу нават у дзесяці ці дваццаці пунктах.

Але ўсё ж адзначу: не толькі глыбіня і шырокі абсяг ведаў аўтара захапляе мяне, але таксама яго літаратурныя ўменні ды стараннае выкладанне выклікае шчырае прызнанне.

Таму мо надта рэзка кідаецца ў вочы прамоўчанае ці недасказанае ў іх з-за недахопу месца, бо „Ніва", вядома, не прыродазнаўчы і не медыцынскі часопіс. Аднак, узважыўшы ўсё, на маю думку, варта дзяліць вялікія тэмы на 2, 3 ці 4 часткі, як, напрыклад, было з пчоламі і прадуктамі іхняй працы.

Возьмем, для прыкладу, артыкул „Дуб — цар пушчы". Добра было б, несумненна, пазнаёміцца з тымі легендамі пра славутыя дубы, што не трапілі ў „Ніву" з-за ашчаднасці месца, як піша аўтар. Але яшчэ лепш было б, каб аўтар шырэй напісаў пра прымяненне кары, лісця і жалудоў дуба ў лячэнні і харчаванні. Прыгадаю некаторыя, вядомыя мне, рэцэпты.

Пры энтэракалітах (нежытах тоўстай і тонкай кішак) рэкамендуюць нарыхтаваць 5%-ны адвар дубовай кары і прымаць яго па адной сталовай лыжцы праз кожныя дзве гадзіны.

У народнай медыцыне напаранні дубовай кары (50 грам пакрышанай кары на 1 літр вады) рэкамендуюць для прамывання і ваннаў пры захвораннях скуры, гемароі, празмерным паценні рук і ног, а таксама для прамывання гнойных ранаў.

Таксама дубовыя галы (арэшкі на лісцях) маюць шырокае прымяненне ў народнай медыцыне. Свежыя або расцёртыя на парашок высушаныя галы ўжываюцца для лячэння лішаёў, экземаў, парашком прысыпаюць гнойныя раны. Адвар галаў прымяняюць для паласкання дзяснаў пры цынзе (шкорбуце), для мыцця галавы пры захворваннях валос, для прымочвання апёкаў.

З жалудоў можна нарыхтаваць хатняе кофе. Для гэтага жалуды злёгку падпражваюць і змешваюць з такой самай колькасцю сумесі падпражанага жыта, ячменю, аўса і пшаніцы. Для смаку дадаюць корань цыкорыі (cykoria podróżnik — Cicorium intybus L.) і корань дзьмухаўца (mniszek—Taraxacum officinale Wigg, одуванчик). Сумесь дакладна мелюць і захоўваюць у шкляным закрытым начынні.

**І. Снарскі**



Масляніца. Фота У. Казлова.

# ПРАПАНУЕМ З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ ФІЛОЛАГАЎ

Кафедра беларускай філалогіі пры філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта працуе ад 1956 г. Да 1975 г. навучанне вялося дзвюма сістэмамі — стацыянарна і завочна, а набор адбываўся праз год. Ад 1975 г. набор праводзіцца кожны год, а ад 1981 года — толькі на стацыянар.

Час вучобы — 5 гадоў, канчаецца яна напісаннем і абаронай дыпломнай працы на вучоную ступень „magistra filologii białoruskiej z filologią rosyjską jako przedmiotem pobocznym".

За ўвесь перыяд існавання кафедры выпусціла яна беларускіх філолагаў-магістраў 190 чалавек, у тым ліку звыш 40 чалавек закончыла завочнае аддзяленне. Значна больш ёсць філолагаў-жанчын — каля 80 працэнтаў. Таксама па паходжанню большасць з іх — выхадцы з Беласточчыны і большасць, бадай, вяртаецца на Беласточчыну працаваць. Як бачыце, ужываем акрэсленні „большасць", бо няма статыстыкі руху беларускіх магістраў. Нічагусенькі не ведаем — дзе і як працуюць гэтыя адукаваныя і патрэбныя людзі. Універсітэт не займаецца прафесіянальным лёсам сваіх выпускнікоў.

А як ёсць? Колькі працуе па сваёй прафесіі? Дзе людзі? Што робяць, як жывуць? Ніхто гэтага не ведае як след.

Крыху так званым павелічэннем кваліфікацый займаецца Інстытут навучання настаўнікаў у Беластоку, але адносіцца гэта толькі да тых настаўнікаў, якія выкладаюць беларускую мову ў школах.

Вельмі многа, аднак, беларускіх філолагаў працуе ў іншых прафесіях і не спажываюць яны сваіх вялікіх ведаў па беларускай мове і літаратуры так як трэба.

Не справа ў тым, каб цяпер шукаць прычыны такой сітуацыі. Справа ў тым, што выпускнікі кафедры адчуваюць патрэбу сустрэчы з былымі сябрамі і з сваімі выкладчыкамі.

Патрэбны з'езд! Людзі хочуць размоў, кантактаў, хочуць дзяліцца думкамі і ўмацоўвацца духам. Некаторыя самі ўжо шукаюць сяброў, запісваюць адрасы. Гэта першы крок да будучага з'езда, які, вераць, некалі адбудзецца — першы і не адзіны. Не ведаюць толькі пакуль што — дзе і хто захоча працягнуць руку дапамогі.

Дзе б зрабіць з'езд — у Варшаве на кафедры, ці можа ў Беластоку ў таварыстве, ці дзе яшчэ, можа, можна будзе знайсці патрона?..

„Ніва" ахвотна стане пасрэднікам ва ўзаемных пошуках. Трэба ўсімі сіламі імкнуцца, каб з'езд арганізаваць.

Можа, найпрасцей будзе, калі цвет беларускай інтэлігенцыі — беларускія філолагі пачнуць гуртавацца, прысылаючы ў „Ніву", у таварыства, ці на кафедру свае ўвагі і заўвагі.

Аб'яўляем: з'езд можна адкрыць! (вл)

# ГАРА-ГОРА

## I

Ну і гара ты праклятая! Наліў у той трыбух, горла поўнае, мазгі боўтаюцца ў гэтай гадасці. Мела я сына, цяпер не маю. На нюх ужо чуе гарэлку, хапае вецер, бы той сабака, загуменнямі прэ да сваіх горкіх сяброў-галубчыкаў, нахлябтацца. Кажу яму: купі ты касцюм, боты новыя, зарабляеш жа нямала жыць можна, як той казаў, панам... Здала я сваю зямлю, рэнту праядаю, жыву з сыночкам, а ён шчэ і з мяне цягне, кожную кропельку з сэрца маці высмакча, паганін. Ох, як гэта мне рэжа, калі гляджу, як ён, малады яшчэ хлопец, валочыцца са старымі кавалерамі, што ні жонкі, ні стала, ні кала. Купяць цыбулю, сала ды хлеб на закуску, і няма бяды, рэжуць. Набрыняла морда, вочы, бы ў таго кроліка, язык пятляецца... Выкінуць за п'янства з аднае работы, знойдзе іншую, ды і там... Вынясе з базы што, прап'е. Колькі з яго карысці?!

## II

— Ну і што ты думала... А я спецыяліст на рабоце па ламанню ножак і ручак. Прыдзе да мяне сябар, кажа: памажы мне, то я яму хрусь! па пальчыку — і хлопец адпачывае тыдзень-два, а можа і месяцаў пару... Ну, цяпер я працую ў будаўніцтве. Палажу шэсць цаглінак на днёўку і спаць магу. Колькі заграблю? З мяне хапіла б, каб не жонка і дзеці... Ты што думала: жонка мае быць жонка, каб мне сораму не прыносіла, баба здаровая, чыстая. Мая трошкі занадта начэплівая... Трэснеш яе, то яна зграбе цябе за валасы, як шалясне... Я яе, лагодненькую, ціхенькую ўзяў сабе з вёскі пад Беластокам, а цяпер чорт не баба, ды і добра, такія ў нас на Баярах бабы ўсе водзяцца. Ну а вы, ваша сіяцельства, колькі бярэце за работу? Хэ...?! Ну, такая і ваша работа! У нас, у будаўніцтве, знаеш што робіш! 6 цаглінак? Што ж, кожны робіць, як можа. Каб ано падліў, то і кветка зацвіце.

## III

Ты думаеш: я п'яны, значыць — дурны. Эх, колькі я мог! Падумаеш... Пачакай ты, помніш мяне, які я быў? Я... Во паглядзі... на мае мазалі. Працую, ару, бы той вол. І хочацца пасля адпачыць. Не, я яшчэ не забыўся, што апрача гарэлкі ёсць яшчэ іншыя забавы. Ды выйдзі ты ў нашае гладкае поле, глянь — усе сядзяць, вылупіўшы вочы ў тэлевізар, а іншы п'е. Цяплей на душаньцы, чарвяк канае,

(Працяг са стар. 1)

# З ПОГЛЯДАМ У БУДУЧЫНЮ

было б аплачваць дакладчыкаў, рэцэнзентаў, рэдактараў выданняў і г.д. Трэба заахвочваць да пісання і друкаваць творы на бельска-гайнаўскай палескай гаворцы, бо гэта не толькі ўзбагачае наш літаратурны рух, але і стварае многім літаратурна адароным маладым людзям магчымасць шчырага выказвання. Адначасова неабходна клапаціцца пра няспыннае павышэнне культуры творчасці, перш за ўсё дбаць пра чысціню беларускай мовы. Нельга ж лічыць беларускім твор, напісаны толькі беларускім алфавітам! Кожны з нас павінен пісаць культурнай беларускай мовай, а дзеля гэтага павінен чытаць больш твораў беларускіх пісьменнікаў з БССР і ўважліва прыслухоўвацца да народнай гаворкі. А каб павысіць мастацкі ўзровень нашых твораў, нам неабходны літаратурны кансультант ці група кансультуючых людзей. Выклікае засцярогі мастацкі і графічны ўзровень большасці нашых выданняў, некаторыя з іх зроблены прымітыўна і непісьменна. Добра было б, каб нашыя выданні выходзілі большымі тыражамі. Неабходна працягваць і пашыраць аўтарскія сустрэчы „белавежцаў" і на іх распаўсюджваць нашыя выданні. І асноўнае: не забываць пра маладое пакаленне — у Бельскім беларускім ліцэі некалькі год таму назад паўстала літаратурная група „Разбуджаны голас", але „Белавежа" не апякуецца ёю, не дапамагае маладым. Нашы семінары таксама павінны быць літаратурнай вучобай, таму неабходна запрашаць на іх спецыялістаў па справах літаратурнай творчасці. Самі мы павінны болей клапаціцца пра ўшанаванне дзейнасці „белавежцаў", адзначаць іх угодкі, важныя падзеі ў творчасці. І так, усе галасы былі нацэлены на будучыню, на ўдасканальванне і пашырэнне дзейнасці „Белавежы".

Новым старшынёю выбрана Міра Лукша.

Увечары ў клубе беластоцкага гуртка БГКТ адбылася літаратурная вечарына з удзелам „белавежцаў" і беластаччан.

**Ігнат Снарскі**




ФАЛЬКЛОР

**ВАШАПРУД**
**(жартоўная)**

А пад вішняю, пад чарэшняю
стаіт стары з маладой, як і з ягадай.*)
І прасілася, і малілася:
— Пусці мене, стары дзеду, на гуліцу, пагуляць!
— А я сам ні пайду і цібе ні пушчу,
бо ты мене, стараго, і пакінеш аднаго.
— Ах ты, стары вашапрудзе, пусці мене міжы людзі!
— А як я той вашапруд, сідзі ў хаце — вошы прудзь!
— Ах ты, стары нігадзяю, пусці мене — пагуляю!
— А як я той нігадзяй, сідзі дома — ні гуляй!
— Ах ты, мой мілюсенькі, пусці мене да радзінкі!
— А як я твой мілы — ідзі да радзіны!

*) Парныя радкі паўтараюцца.

*Ад Анны Валкавыцкай, 1915 года нараджэння, вёска Таніца гм. Міхалова, запісаў 21 жніўня 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*

## ЦЯЖКІ ЎСПАМІН*)

Мо будзе калі хто на месцы Папоўкі,
Дзе сёння помнік бетонны стаіць,
Прад ім пахілі ты з пашанай галоўку
І кветкі, хоць з поля, пры ім палажы.
Аб вёсцы Папоўка забыцца не можам
І памяць увечніць яе жыхароў,
Якія, расстрэлены куляй варожай,
Навечна ляжаць у зацішшы лясоў.
Ў магілу, дзе помнік, падала маці,
Трымаючы дочку сваю на руках.
Фашыстаў не ўзрушылі слёзы дзіцяці,
Град слёз не трывожыў на ўзрослых вачах
Сюды не падыдзе сынок ані дочка,
Каб бацьку ці маці сваю ўспамінаць,
Бо ўсе яны разам у жоўтым пясочку
На векі-вякоў пад бетонам ляжаць.
Калі каму прыдзецца быць у Папоўцы,
Дзе помнік вечны на ўзлессі стаіць,
Прад ім пахілі у маўчанні галоўку
І кветку пры ім не забудзь палажыць.

**Янка Федзюкевіч**

*) Папоўка — маленькая вёска, якая была ў гміне Гарадок, яе гітлераўцы спалілі, а жыхароў (дарослых і дзяцей) расстралялі. Зараз на тым месцы пастаўлены помнік.

# ГАЙНАЎСКІ „ГУРНІК" ЗАПРАШАЕ

„Гурнік" — так называюць у Гайнаўцы Дом культуры. Прыезджыя часта здзіўляюцца, адкуль узялася такая назва ў горадзе лясной і дрэваапрацоўчай вытворчасці. Мясцовыя па-рознаму высняюць радаслоўе назвы: адны гавораць, што будаўнікамі будынка былі людзі са Шлёнска, іншыя — што „хімічная", значыць, Гайнаўскае прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны, прадукуе вугаль з драўніны, але для большасці назва „Гурнік" застаецца загадкай.

Гайнаўскі дом культуры выконвае ролю вядучай установы ў культурнай дзейнасці ў межах даўнейшага Гайнаўскага павета. Ад некалькіх гадоў стаў вядомым (і не толькі ў ваяводстве) перш за ўсё Днямі царкоўнай музыкі, якія праходзяць тут у маі.

Бягучы год Гайнаўскі дом культуры распачаў традыцыйнымі навагоднімі ёлкамі для дзяцей і рознага роду мерапрыемствамі для моладзі і дарослых.

„Баль у пана Клекса" — так называлася вынаходлівая форма ёлак для дзяцей. Аўтарамі праграмы і выканаўцамі былі самі працаўнікі Дома культуры. Уласны сцэнарый падрыхтавалі інструктары Збігнеў Вэрэса і Ядвіга Кучкін. Была гэта форма тэатральнай пастаноўкі, спалучанай з гульнямі дзяцей. Не абышлося, вядома, без Дзеда Мароза, якім быў (гаворачы па сакрэту перад дзецьмі) сам дырэктар Мікалай Бушко. Раздаваў ён пачкі, нарыхтаваныя „Орбісам". У пана Клекса гасцявалі дзеці з розных устаноў Гайнаўкі, а нават Белавежы і Нарвы. Усіх такіх баляў пад ёлкай было больш дваццаці.

Традыцыйна ўжо ў Гайнаўскім доме культуры праходзіў навагодні баль членаў і сімпатыкаў БГКТ 12 студзеня б.г. Як заўсёды, на „беларускім" балі было мнагалюдна, весела і прыемна. Арганізатарам яго былі члены гайнаўскага хору БГКТ. Танцавальныя рытмы і беларускія песні запаўнялі вялікую залу „Гурніка" цэлую ноч.

Праз некалькі дзён, 17 студзеня, Домам культуры завалодалі песні і танцы Смаргонскага ансамбля песні і танца імя Агінскага з БССР. Гайнаўчане паказалі сваю гасціннасць і пасля канцэрта наладзілі сяброўскую сустрэчу ў Белавежы.

У нядзелю 19 студзеня ў Гайнаўскі дом культуры з'ехаліся калякнікі з Белавежы, Тыневіч, Грабаўца і іншых вёсак на раённы агляд калядных песень. На аглядзе выступіў таксама гайнаўскі беларускі хор. Неабходна падкрэсліць, што і на гэты раз публіка запоўніла залу.

У студзені ў Гайнаўскім доме культуры праводзіліся і іншыя мерапрыемствы. Варта наведвацца сюды. Праграма дзейнасці надалей прадбачваецца багатая.

Да пабачэння ў гайнаўскім „Гурніку"!

**В. Хрысцінчын**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Адзін дуб у полі — то не лес.

Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў няма.

Без падпалкі і дровы не гараць.

Будзе час — будзе і квас, не ўсё за раз.

З малой крыніцы вялікая рака пачынаецца.

Людзі без людзей жыць не могуць.

Мілей свая хатка, чым чужая вёска.

Не карай цябе Божа нічым, толькі другам ліхім.

Не той друг, што мёдам мажа, а той, што праўду ў вочы кажа.

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# КРОЎ МАЦІ

На пяты дзень ваенных дзеянняў, значыць 27 чэрвеня 1941 года, салдаты вермахта паявіліся на хутары **Крыніцы**, што пад Міхаловам. Дзядзька **Андрэй Цабай** кажа, што прыімчаліся яны недзе ад поўдня, як бы ад Бельска ці ад Заблудава.

Гляджу на карту баявых дзеянняў у першыя дні гітлераўскай агрэсіі на Савецкі Саюз. Выходзіць, што на Цабаёвым панадворку апынулася нейкая часць 9-га армейскага корпуса, які прымаў удзел у ліквідацыі „беластоцкага катла". Уваходзіў ён у састаў 4-ай гітлераўскай арміі, якая атакавала на цэнтральным участку фронта.

Андрэй Цабай жыў разам з жонкай **Янінай** і чатырохгадовым сынам. Чацвёра іншых дзяцей памерла ў іх у маленстве. Нельга сказаць, каб не спадзяваліся яны гэтых няпрошаных гасцей. Іх адзінокі хутар аддзяляла ад шашы толькі невялікая палоска лесу. Ужо каторы дзень з трывогай наглядалі яны за беспынным патокам цывільных людзей і ваенных часцей, якія ўпарта намагаліся прарвацца на ўсход.

Андрэй Цабай быў тады ўжо сталым мужчынам, меў за сабою вайсковую службу ў даваеннай польскай арміі і добра разумеў, што ўсё гэта абазначае.

Немцаў ён памятаў яшчэ з першай сусветнай вайны. Быў тады ўжо амаль 20-гадовым кавалерам. У самім Міхалове здаўна жылі нямецкія сем'і рабочых-тэкстыльшчыкаў. Людзі, як людзі, дзядзька Андрэй не меў асноў, каб нечага найгоршага ад іх спадзявацца...

І таму без асаблівай трывогі, затое з яўным зацікаўленнем, разглядаў ён гэтых прадстаўнікоў пераможнай арміі. Знайшліся сярод іх і такія, што ўмелі крыху па-польску.

— Матка, мільх! Матка, аер!

Панадворак запоўніўся гаманлівай шваргатнёй. Салдаты разбегліся па хутары, шукаючы нейкай пажывы. Вясёлыя, бадзёрыя, паводзілі сябе ўпэўнена і адважна, як сапраўдныя гаспадары на гэтай зямлі і ўсёўладныя паны. Не чакалі, пакуль цётка Яніна ласкава пачастуе іх чым хата багата. Са смехам і бесклапотным гоманам самі валаклі з сеняў, каморы і хлявоў усё, што пападалася ў рукі, каб падсілкавацца. Некаторыя параспраналіся і, абступіўшы калодзеж, з палёгкай змывалі з сябе пот і пыл франтавых бездарожжаў.

Што і раз заязджалі на Цабаёвы панадворак нейкія матацыклісты. Рапартавалі штосьці афіцэрам і зноў кудысь адпраўляліся.

**З Бельска — аб розным**

### У „ПАДЛЯСЯНЦЫ“

Парадак і чыста ў бельскім рэстаране „Падлясянка“. Кіраўнік Яўгенія Алексяюк інфармуе што рэстаран працуе рэнтабельна. Цікаўлюся, колькі грошай тут людзі выдаюць на алкаголь. За мінулы год выдалі 1.470.745 зл.

А харчаванне?

Абеды смачныя. Многа людзей пастаянна сталуецца ў „Падлясянцы“. Часта таксама робяць тут вяселлі, па суботах — дансінгі, ахвотных нямала.

### ПІВА З ПЕНКАЙ

Піўная на вуліцы Крынічнай. Тут пачалі прадаваць піва з бочкі. Калі хто хоча выпіць піва, павінен заплаціць каўцыю.

Чаму так? Кіраўнічка піўной выясняе: калі не браць каўцыі, людзі не звяртаюць куфляў, крадуць іх, разбіваюць і г.д.

Бяльчане выпіваюць кожны дзень 8-9 50-літровых бочак, пакідаючы ў піўной штодзень звыш 80 тысяч зл.

За нужнікам (які некалі „Ніва“ крытыкавала) сочыць жанчына і трымае парадак і чысціню.

### ВІТАМІНЫ Ў КРАМАХ

Агароднінна-пчалярская спулдзельня ў Бельску знаходзіцца на вул. Бранскай. Новы магазін-склад пабудавалі ў мінулым годзе. Захоўваецца тут 1 200 тон белай капусты, 350 тон яблык, 25 тон сэлераў, 100 тон бульбы, 180 тон морквы, 60 тон буракоў, 52 тоны пятрушкі, 50 тон кіслых агуркоў, 60 тон квашанай капусты. Не бракуе вітамінаў у Бельску.

### У АБАРОНЕ РАКІ БЕЛАЙ

Бруд у рацэ Белай — гэта сур'ёзная праблема. Малачарня ўпускае ў раку 30 мільёнаў літраў сыроваткі ў год. Моцна брудзіць і рашарня.

Ад 1975 г., крыху за горадам, пачала будавацца гарадская ачышчальня сцёкаў. На будове гэтай працуе цяпер 35 асоб. Заканчэнне яе плануецца на 1986 г. на весну. На вуліцы Дубічы будуюць перапампоўню.

**Андрэй Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 2)

## АБ ПАЖАРАХ

пажары заўсёды грэецца і плёгка.

Пытаў я многіх аб гэтых драматычных пажарах. Адказы былі розныя, некаторыя з іх — акутаныя нездаровай сенсацыйнасцю. Вядома, што некаторыя людзі схільны тое, што здарылася, спалучаць у такой ці іншай ступені з асобамі, якіяastаюцца ў непасрэднай службовай сувязі са святынямі або з чымсьці зусім адваротным — іншаверцамі. Чалавеку, які жыве ў сотнях кіламетраў ад мясцовасцей, у якіх мелі месца пажары — а я якраз і ёсць такі чалавек — у ніякім выпадку нельга прыхіляцца да тых версій, якія маюць сенсацыйны характар. Зрэшты, мая прафесія не ўпаважняе мяне да разглядання таямніц таго, што сталася. Я толькі як грамадзянін, як беларус і як чалавек, які прагне, каб наш усходнебеластоцкі край назаўсёды захаваў сваю этнаграфічную, культурную, моўную і рэлігійную спецыфіку, балюча рэагую на кожны ўдар, нанесены гэтай спецыфіцы. Вядома — тым цэрквам, якія згарэлі, дапамагчы ўжо нельга. Аднак папярэдзіць падобныя выпадкі можна. І таму ўсе, каму дарагая наша беларуская непаўторнасць, павінны думаць, пастанаўляць і дзейнічаць у тым напрамку, каб тое, што здарылася ў Клейніках, Крушынянах і Чыжах, не паўтарылася ў ніякай іншай мясцовасці.

**Алесь Барскі**



По роднай зямлі. Рэз. па дрэву. Дом Юльяна Белаха ў вёсцы Гацькі каля Бельска. Народны разбяр Іван Дамброўскі з вёскі Храбалы. 30-я гады XX стагоддзя.

Фота М. Гайдука.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Ці прыхварэў ты, ці што: не бачу тваёй рубрыкі, а так жа добра мае сны былі адгаданы...

А вось цяпер мне сніцца, што мой бацька-нябожчык прыйшоў да мяне і з каморы выносіць саланіну вялікімі кавалкамі. Я кажу: „А што ж мне?“ А ён супакойвае: „І табе астанецца!“ Але не ведаю, адкуль узяліся ў каморы вялікія кавалкі саланіны. Што абазначае нябожчык-бацька і саланіна? Прашу, Астроне, адгадай мой сон.

**А. Г.**

Ох, Андрэйка, Андрэйка! Пастарэў ваш Астрон, пастарэў... Згорбіўся і пахіліўся. Ледзь ходзіць, на кіёчак абапіраючыся. А тут яшчэ шэфы працаваць як след загадваюць — грошыкі ж дарма не плоцяць. Вось часу на забаву і не хапае. Што сумна Астрону без людзей, то сумна. Праўду кажучы, людзі дык ёсць, але вось Астрон на іх лісты адказваць не дае рады. Важнейшыя рэдакцыйныя справы поўнасцю паглынаюць яго.

А так жа было калісь добра, бо хоць карэспандэнты Астрона амаль усе ананімныя, прыемна было на нейкі момант увайсці ў іх жыццё і, хоць часамі крыху засмуціць чалавека, то найчасцей усё ж — супакоіць, удыхнуць у яго крыху надзеі і веры, якіх якраз не хапала.

Старасць — не радасць, браце, і пад бярозкі ўжо памалу збіраюся, але табе як вернаму карэспандэнту адказаць яшчэ мушу.

Твой сон не надта добры, хаця нябожчыка сніць наогул добра. Але, бачыш, нябожчык быў тваім бацькам, а гэта ўжо абазначала б нейкі клопат. Клопаты гэтыя будуць звязаны, бадай, з нейкай хваробай. Аб гэтым якраз сведчыць тая няшчасная саланіна.

Так вось, дружа, выглядае твой апошні сон. Прабач старому, калі, можа, дзе ў чым памыліўся. Думаю, што твая сіла волі дапаможа пераадолець табе ўсе непрыхільнасці лёсу.

**Астрон**

Да гаспадара ніхто не чапляўся. Ён хадзіў сярод гэтых салдат, як качаня сярод пеўнікаў, і, хаця амаль нічога не разумеў, першапачатковае зацікаўленне гэтымі прышэльцамі памалу пераходзіла ў стрыманае захапленне і зачараванне іх бестурботнай гаспадарскай мітуснёю.

Раптам на панадворку паявіўся чарговы матацыкліст. Ён прыімчаўся дарогай ад Жэдні. Казырнуўшы пад сваю сталёвую каску, штосьці нервова зашваргатаў і не паспеў яшчэ поўнасцю дакончыць свой рапарт, як афіцэр адвярнуўся да салдат і ў сваю чаргу зароў на поўны голас нейкую каманду. Салдат быццам бы падарвала. Усе ў адну хвіліну пакінулі ўсялякія заняткі і мігам пачалі прыводзіць сябе ў парадак. Трое з цяжкім кулямётам і поўнымі скрынкамі патронаў уладкаваліся за шчытом суседавай клуні, іншыя хуценька акапаліся на ўскраіне лесу, які аддзяляў іх ад шашы. Нават тыя, хто наводзіў свой туалет ля калодзежа, на хаду зашпільвалі ганавіцы і мундзіры, каб як мага хутчэй заняць абарону.

Дзядзька Андрэй таксама перапалохаўся. З жонкай і сынам схаваліся яны ў каменным склепе, дзе звычайна перахоўвалі бульбу.

— Што там дзеялася далей, дык гэтага мы не бачылі, — шчыра сцвярджае Андрэй Цабай. — Толькі адно чулі, што немцы раптоўна пачалі страляць у напрамку шашы. Гэты кулямёт, які яны ўладкавалі ў суседавай клуні, амаль не змаўкаў. Можа, гадзіну часу трывала гэтая страляніна, можа, менш ці больш, цяжка сёння сказаць, але нарэшце ўсё заціхла. Нават ад шашы не далятаў трывожны гоман, да якога мы ўжо прывыклі. Пакінуць сваё схovішча мы яшчэ не адважыліся.

Нейкі нямецкі салдат вінтоўкай застукаў у дзверы іхняга склепу.

— Фатэр! — закрычаў. — Рускі капут! Можа вылажыч!

І Андрэй вылез. Не таму, што сам гэтага пажадаў, але хутчэй таму, каб не супраціўляцца нямецкаму салдату.

— Тші машынэн з рускімі зольдатэн на шосэ мы та-та-та! — затрос сваім хуткастрэлам. — Вшыткі — капут!

Без асаблівых паясненняў селянін зразумеў, што гэтыя людзі з ахвотай і адданнем зрабілі сваю крывавую работу, каб зноў спакойна вярнуцца да спыненага туалету ці недаконачанай яешні або гусінай лапкі.

Ад шашы вярнуўся нямецкі санітар.

— Я так думаю, што гэта быў санітар, — удакладняе дзядзька Андрэй, — бо на рукаве насіў ён белую павязку з чырвоным крыжам і даволі добра гаварыў па-польску. Відаць, вучоны чалавек, — дабавіў дзядзька Андрэй.

— А можа дзе-лень выводзіўся са Шлёнска або з Гданьска? — адазвалася цётка Яніна.

— Я ў яго не пытаў пра гэта і ён мне таксама не гаварыў, дзе ён нарадзіўся і дзе вывучыў польскую мову, — працягваў гаспадар. — Бо тут выйшла цалкам іншая справа. Вось гэты санітар ці доктар кажа мне, што ў адным аўтамабілі асталося жывое маленькае дзіцё.

— Калі хочаце, — гаворыць да мяне, — дык ідзіце і бярыце гэтае дзіцё ды апякуйцеся ім, а калі не, дык я пайду і застралю яго, каб не мучылася...

У першую хвіліну селяніну здалося, што ён не разумее, аб чым гаворыць гэты немец.

— А трэба вам ведаць, — адзначае Андрэй Цабай, — што я сам пахаваў аж чацвёра сваіх дзяцей. Адно па другім неяк па-

(Працяг на стар. 8)

## Цікавінка

### У КАГО ЁСЦЬ ДУША?

Доследы над малпамі, якія жывуць на свабодзе, асабліва шымпанзэ, гарылы, арангутаны, паказалі, што маюць яны „людскую" душу. Па характару і паводзінах да нас падобныя, як і мы, скамплікаваныя і гвалтоўныя. Гэтыя чалавекападобныя малпы праводзяць лютыя пляменныя войны, забіваюць малпіных дзяцей і вынішчаюць жорстка цэлыя роды сваіх жа родзічаў.

Вучоныя запісалі выпадкі, калі малпы кралі і з'ядалі дзяцей сваіх суседзяў.

Як бачым, робяць тое ж, што і людзі. Нашы карэнні тыя ж. Былі мы некалі адным з гатункаў, які з'ядаў і быў з'яданы. Толькі адкрыццё продкамі вырошчвання раслін змяніла напрамак і накіравала чалавека на шлях падпарадкавання і выкарыстоўвання звяроў, а затым і другога чалавека. — слабейшага.

Цяпер чалавек цалкавіта падпарадкаваў сабе свет фауны і флоры. Падпарадкаваў іх сабе для ўласных эгаісцкіх карысцяў і выгад. Забраў у звяроў свабоду, шчасце, жыццё.

Першабытны чалавек хоць забіваў, але жыў у самай гушчы прыроды, як неадлучны яе элемент, і ў згодным сімбіёзе. А мы ўжо аддзяліліся ад прыроды і нішчым яе абсалютна і бяздумна. Колькі цярпення і няшчасцяў, колькі болю прычыняем звярам у імя фальшывага перакանання, што душу мае толькі чалавек, а не маюць яе звяры! Калі так падумаць пра ўсё гэтае знішчэнне чалавекам акружаючага асяроддзя, дык прыдзем да няўхільнага вываду, што напэўна не мае душы чалавек. (авл)

(Працяг са стар. 1)

# МІХАЛ ШПАКОВІЧ

вучобу. Але што ж! Было гэта ў чэрвені 1939 г. Калі ў Белавежы ўстанавілася савецкая ўлада і пачала дзейнічаць дзесяцігодка, Міхал пачаў вучыцца ў ёй. У сакавіку 1941 г. падаецца на месячны лясны курс. У красавіку, ужо як тэхнік-практыкант па добраўпарадкаванню лесу, трапляе ў Валожын, што непадалёк Мінска. Адтуль неўзабаве перакідаюць яго ў Касова Палескае, у якое, разам з сябрамі, едзе 22 чэрвеня 1941 г. Ды не даязджае. Ужо на дарозе, у Ружане, хлопцы сустракаюць немцаў. Усведамляюць сабе, што гэта вайна. Пастанаўляюць дабрацца ў Белавежу. Пехатою. Удаецца ім гэта на трэці дзень. У Белавежу немцы ўступілі 25 чэрвеня 1941 г. Міхал да канца вайны працуе чаляднікам у шаўца Рыгора Байко. Наглядзеўся ўдосталь, як гітлераўцы здзекваліся над мясцовымі жыхарамі. Два разы сам бачыў вешанне людзей на дрэвах перад царквой. Сам быў крок ад смерці, калі яго палічылі савецкім салдатам. Выратаваў знаёмы, які добра ведаў нямецкую мову. Другі раз прасядзеў цэлы тыдзень у арышце за ўхіленне ад працы ў лугавой гаспадарцы на Нікары.

Белавежу вызвалілі савецкія войскі 17 ліпеня 1944 г. У 1945 г. памірае маці Міхала. Ён астаецца з бацькам на гаспадарцы. У чэрвені 1947 г. выязджае ў Мальборк. Разам з іншымі адбудоўвае цукраварню. Працуе там 8 месяцаў і вяртаецца ў Белавежу, дзе да 1949 г. працуе пры добраўпарадкаванні лесу. Потым тры гады працуе лабарантам-метэаролагам. Вядзе запіс тэмпературы лесу. Праца, здавалася б, лёгкая і прыемная, але М. Шпаковіч залічвае яе да вельмі цяжкіх. Трэба было быць у лесе, не зважаючы на надвор'е — у дождж і мароз, улазіць на дрэвы, дзе былі некаторыя тэрмометры. Тады і патрацiў здароўе. У 1950 г. уступае ў ПАРП. У пачатку 1951 г. пераходзіць на працу ў Раён дзяржаўных лясоў у Белавежы. 5 снежня 1954 г. выбіраюць яго старшынёй Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай у Белавежы. Гэтыя абавязкі выконвае да 1961 г. У г.г. 1961-69 з'яўляецца намеснікам старшыні Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы. На недахоп працы такім чынам, скардзіцца не мог, але нягледзячы на гэта, знайшоў яшчэ сілы і час, каб закончыць завочна эканамічны тэхнікум (вучыўся ў г.г. 1959-63). У 1969 г. пераходзіць на пасаду старшыні праўлення ГС у Белавежы і працуе на ёй да 1972 г. Потым, аж да 1978 г., г.зн. да пераходу на ранейшую пенсію, вядзе ў гміне зямельны сектар.

У час яго працы ў радах нарадовых (трэба тут таксама дадаць, што на працягу 23 гадоў быў радным, павятовым і гмінным) давёў да добраўпарадкавання каля 100 га лугоў і пашаў у сёлах Застава і Стачок, электрыфікацыі пушчанскіх вёсак, пабудовы лазні на Заставе, рэгулявання ракі Нараўкі, паглыблення сажалак у палацовым парку, пракладкі асфальту на гайнаўскай шашы, рамонту шматлікіх дарог. Змагаўся за пабудову новага чыгуначнага прыпынка ў Белавежы, правядзення водапровода. Асаблівыя заслугі мае на ніве ўвекавечвання месцаў пакарання смерцю падчас II сусветнай вайны на Гайнаўшчыне. Па яго ініцыятыве пастаўлены помнікі ці памятныя мемарыяльныя дошкі ўсюды там, дзе іх яшчэ не было. Быў старшынёй грамадскага камітэта пабудовы ў 1959 г. помніка загінуўшым ля царквы ў Белавежы. У г.г. 1961-69 з'яўляўся намеснікам старшыні павятовага грамадзянскага камітэта аховы помнікаў барацьбы і пакутніцтва ў Гайнаўцы. Калі гаворыць пра дасягненні, спехам дабаўляе, што не толькі адзін ён можа пад імі падпісацца. Прыводзіць прозвішчы Несцера, Якава і Яна Бушкаў, Рыгора Семенюка, Паўла Сікорскага, Вячаслава Дэмяшкевіча, Казіміры Касцялецкай, Вольгі Смактуновіч, Тадэуша Макшыцкага, Яна Карпінскага, Аўгуста Дэнеля і інш.

М. Шпаковіч таксама актыўны член партыі. У г.г. 1955-70 з'яўляўся членам пленума ПК ПАРП у Гайнаўцы. У г.г. 1954-70 — старшынёй павятовай камісіі партыйнага кантролю. Зараз ён член выканаўчага органа ГК ПАРП у Белавежы. Актыўна ўдзельнічаў і ўдзельнічае надалей у шматлікіх грамадскіх органах і арганізацыях, выконваючы ў іх нярэдка розныя важныя абавязкі. З'яўляецца членам РГ ПРОН і членам Наглядальнага савета ГС у Белавежы.

За сваю дзейнасць М. Шпаковіч атрымаў Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы, Залаты Крыж Заслугі, Сярэбраны значок „Заслужаны для Беласточчыны", Медаль 40-годдзя Народнай Польшчы, Бронзавы медаль за заслугі для абароназдольнасці краіны і шмат іншых узнагарод.

Белавежа ганарыцца сваім сынам.

**Пётр Байко**

Фота Артура Дамашэвіча.

## Куток практычных ведаў

Калі вы капнулі на адзенне тлушч і ў вас пад рукой няма ніякага сродку для выводзення плям, пасыпце пляму соллю і асцярожна патрыце. Мяняйце соль некалькі разоў, да таго часу, пакуль пляма не знікне.

## Бібліяграфічны куточак


Vytautas Raudeliunas, Henryk Wisner — Trzeci Statut litewski. „Mówią Wieki" (W-wa), R. 1984, Nr 3, s. 1—3.

Jerzy Łojko — Grunwaldzkie chorągwie Litwinów (Na marginesie nowego wydania jedenastej księgi „Roczników" Jana Długosza). „Mówią Wieki", R. 1984, Nr 8, s. 30—33.

Wiesław Falkowski — „W świat niesiemy swe serca gorące..." (Liceum Medyczne w Bielsku Podlaskim). „Oświata i Wychowanie" (W-wa). Wersja A, R. 1984, Nr 8, s. 39—40.

Andrzej Czerwiński — Antropogeniczne zbiorowiska leśne w okolicy wsi Samółki nad Narwią. „Zeszyty Naukowe Filii Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku". Z. 43. Nauki Matematyczno-Przyrodnicze, R. 1984, t. 9, s. 51—79.

Czesław Okołów — Z prac Rady Naukowej Białowieskiego Parku Narodowego w 1983 r. „Parki Narodowe i Rezerwaty Przyrody" (Białowieża). R. 1984, Nr 2, s. 87—88.


**П. Байко**

(Працяг са стар. 7)

# КРОЎ МАЦІ

міралі, не паспеўшы і словам адазвацца... Толькі пры пятым дзіцяці Бог паблагаславіў нас, і вырасла яно ў нас чатырохгадовым тады ўжо хлопчыкам... Мне ў галаву не прыйшло, што можна проста так пайсці застрэліць жывое дзіця! Я гляджу на жонку, жонка на мяне і мы абое маўчалі.

— Ну як? — нерваваўся немец.

— Іду! — рашыў Андрэй Цабай.

Ад шашы наплывалі глухія адгалоскі адзіночных выстралаў або кароткія чэргі кулямётаў. Калі выйшлі за лес, Андрэй зразумеў, адкуль усё гэта. Па шашы і прышасейных палях блукаліся нямецкія салдаты, шукаючы чырвонаармейцаў — жывых або і параненых. Адзін стрэл або кароткая чарга — і крывавая статыстыка пераможцаў красамоўна папаўнялася, каб на другі дзень за газетнымі інфармацыямі маглі зноў парадавацца сэрцы іх аднаайчыннікаў.

Тое, што адкрылася вачам Андрэя Цабая, прывяло яго амаль да затраты прытомнасці. Першы раз у жыцці ўбачыў ён столькі мёртвых салдат у зялёных кашулях з чырвонымі нашыўкамі. Ляжалі на шашы і пад шасейным адхонам у збожжы і ў траве...

Нямецкі санітар накіраваўся да аднаго з трох грузавікоў, з якіх струямі сплывала нешта чырвонае, быццам кроў.

Там! — паказаў на адкрыты борт машыны. Селянін зазірнуў і ад жаху замкнуў павекі. Цэлы грузавік запоўнены быў трупамі. Іх цэлы ляжалі, паскручваныя, у самых розных позах, узваліўшыся адно на другое.

Нямецкі санітар падганяў селяніна: бяры, маўляў, бо зараз я сам наваду парадак!

Андрэй асцярожна палез у кузаў. Сярод блытаніны мёртвых мужчынскіх цел раптам убачыў адну жанчыну з маленькім дзіцём на руках. Сядзела яна, абапертая плячыма аб борт аўтамабіля, з пахіленай галавой над дзіцём, цёмнавалосая... Сапраўдная Мадонна, Мацер Божая са святых абразоў...

— Ну, чаго ты там яшчэ чакаеш! — закрычаў немец. — Бяры, бо крывёю дзіцё захлісне цца!

Андрэй Цабай толькі тады прыкмеціў, што з вуснаў дзіцяці рытмічна ўсплываюць бунькі чырвонай вадкасці. Няма, няма і — бунь! — пузырок, запоўнены крывёю, разарвецца над вуснамі дзіцяці.

*„О, Божа, то ж яно матчынай крывёю так дыхае! З твару маці яна сплывае!"* — падумаў селянін і кінуўся да дзіцяці... А што было далей, дык аб гэтым праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



Андрэй Цабай кажа: „Жанчына сядзела, быццам Мацер Божая...

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Як ні крыўдна прызнацца, а Валік быў баязлівым.

Яшчэ ў прадшколлі яго ўсе крыўдзілі, а ён не адбіваўся. І ў школе таксама.

І што гэта за закон такі дзіўны: небаязліўцаў ніхто і пальцам не кране, а калі ты асцярожны, дык быццам напісана на табе: кожны, каму не лень, і локцем цябе штурхне, і на нагу наступіць. Гора і ўсё тут!

Праўду кажучы, Валік не быў слабым. Не ўмеў ён неяк за сябе пастаяць. Адыйдзе, здаралася, праглыне крыўду, а то і слязу пусціць.

Колькі разоў Валік казаў сабе, нават загадваў: „Ну, усё. З заўтрашняга дня...“

Але прыходзіла заўтра — і дзеці скакалі з высокага школьнага ганка, а Валік падыходзіў на край, глядзеў уніз, быццам бы мерыў, ці высока, і адыходзіў назад.

Цяжка жыць на свеце заячай душы. Усюды цябе падсцерагае небяспека.

Асабліва атручваў Валіку жыццё адзін чалавек: кірпаты і шчарбаты. Вучыўся гэты чалавек у іншай школе, але жыў якраз там, дзе быў прахадны двор, праз які Валік хадзіў у краму. Гэта быў хлопчык такога ж узросту і росту, мабыць, на сантыметр ніжэйшы. Але Валік баяўся яго проста панічна і называў яго Фруктам. Неяк ён пачуў, як нейкі дзядзька ў чарзе сказаў злосна аб іншым, які лез без чаргі: „Ну і Фрукт!“ Штосьці Валік знайшоў у іх супольнае.

Фрукт ані разу не крануў Валіка пальцам, але як толькі Валік з'яўляўся ў двары, рабіў пагрозлівы жэст і глядзеў так, што ў Валіка трэсліся каленкі, і ён дадаваў кроку.

Справа ў тым, што праз плячо ў Фрукта віселі баксёрскія рукавіцы. І кожны раз ён, відаць, ішоў на трэніроўку або вяртаўся. Хто яго ведае.

Уяўляеце, як мучыўся Валік, калі трэба было праходзіць праз двор. А калі дадаць, што ў гэтым жа двары жыла Майка, так, так, тая самая Майка, якая вучыцца з Валікам у адным класе і сядзіць з Марынкай проста перад ім, тая самая Майка, якая... у якой... ды што казаць... Як Валіку хацелася быць героем! Валік уздыхаў...

І вось аднойчы...

Паслала мама Валіка ў краму. Вядома, неабавязкова было ісці праз прахадны двор. Але абыходзіць было далёка. А мама прасіла хутчэй. Дарэчы, Валік хадзіў ужо праз прахадны двор двойчы і Фрукта не сустрэў. Можа, ён захварэў, паехаў, здараюцца ж такія шчаслівыя выпадкі. І Валя рашуча павярнуў у прахадны двор.

В. Нестайка

### БАКСЁРСКІЯ РУКАВІЦЫ

Толькі завярнуў за вугал...

Першае, што ён убачыў, былі Мая і Марынка. Яны стаялі на балконе таго дому, за вугал якога завярнуў Валік. Другое — гэта быў Фрукт. З баксёрскімі рукавіцамі праз плячо. Ён сядзеў на сходках дома насупраць. Майка і Марына не заўважылі Валіка, яны стаялі, абапершыся на балюстраду балкона, бокам да яго. Але яшчэ крок — і куды падзенешся? Адступаць? Падумаюць — уцякае. Адзін выхад — схавацца ў кустах бэзу. Што Валік і зрабіў.

Раптам у двары паявіўся нейкі незнаёмы хлапец. Ён адважна ішоў на Фрукта. Той устаў са сходкаў.

Хлапец падышоў і з ахідствам сказаў:

— Махамед Алі! Ану, давай сюды. — І ён схапіў баксёрскую рукавіцу.

Фрукт спалохана адскочыў.

— Не чапай!

— Ты ж іх ані разу не надзеў! Я ведаю! Я за табою ўжо даўно наглядаю. Ты проста носіш іх напаказ.

— Пусці! — Фрукт гатовы быў вось-вось заплакаць.

— Панасіў — дай другому. — Хлапец шарпнуў рукавіцы да сябе.

І раптам Валік зразумеў. Фрукт такі ж баязлівец, як і ён. А рукавіцы носіць для адвагі! І Валіку зрабілася ад гэтага адкрыцця весела, ён нават рагатнуў уголас.

Валік выскачыў з-за кустоў і бадзёрым крокам пайшоў у двор.

Убачыўшы, як Валік рашуча набліжаецца, хлапец нечакана застыў, перавёў погляд на Фрукта, затым зноў на Валіка. У вачах яго мільгануў страх.

І калі Валік падышоў бліжэй, хлапец крыва ўсміхнуўся:

— Наце вам вашыя рукавіцы! Патрэбны яны мне! — Ён кінуў адабраныя ад Фрукта рукавіцы на зямлю і, пасвістваючы, адступіў. Валік аслупянеў ад нечаканасці.

Фрукт нахіліўся, паднімаючы рукавіцы, выпрастаўся, разгублена глянуў на Валіка, ціха сказаў: „Дзякуй“. І пайшоў у дом.

Толькі тады Валік зразумеў канчаткова, што здарылася. Яго, баязліўца, спалохаўся гэты чужак, які адабраў у Фрукта баксёрскія рукавіцы. У Фрукта, якога Валік так баяўся. І Фрукт яму, Валіку, сказаў: „Дзякуй“. За ратунак.

Дык гэта ж... гэта... Валік

(Працяг на стар. 10)



[illegible] Іра Хірко і Ма- [illegible]
Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*Па просьбе Мікалая Бушко з Гайнаўкі — вершыкі для самых маленькіх.*

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### ПАРСЮЧОК

Парсючок пад'еў
І прыйшоў у хлеў.
Стогне: „Ух-ух-ух,
Я пад'еў за двух“.
Але пэўна б мог
З'есці і за трох.

### КАТОК

Пайшоў коўзацца каток
На рачулку, на лядок.
Як імчаўся, на хаду
Праваліўся у ваду.
Замачыў ён чаравічкі
І касцюм, і рукавічкі,
Нетрывалым быў лядок,
Непаслушным быў каток.
А яму ж казала маці,
Каб лавіў мышэй у хаце,
Каб маленькіх калыхаў
І на цёплай печы спаў.

### ІШЛА МЫШКА

Ішла мышка і пытала,
Дзе знайсці мукі і сала.
Паказаў казёл бародкай:
— За высокай загародкай,
Супраць млыну, на узгорку,
Жыве коцік на задворку.
Паважае ён гасцей,
Хлебасол ён, дабрадзей.
Мышка ціха адказала:
— Пэўна, ён не мае сала, —
Потым глянула на горку
І хутчэй шмыгнула ў норку.

### ГУСАЧОК

— Забіяка беленькі!
Гусачок!
Звіс у цябе поўненькі
Валлячок.
Дзе блукаў, бадзяўся?
Дзе ты быў?
Дзе шчыпаў травіцу?
Чым ты жыў?
— Жыў, як на курорце,
У глухім чароце.
Там, нібы на дачы,
Рос наш род гусачы,
Дзе балотца і дрыгва,
Хіба дрэнна? Га-га-га?

### ПЛІСКА

Ля вадзіцы блізка
Лёгка скача пліска.
Ножкі, як спружынкі,
Скача без упынку.
Цёмныя вочкі,
Белыя шчочкі,
Чорная галоўка,
Шэрая ватоўка.
Пэўна, ёю купіна
Назаўсёды куплена,
Бо заўсёды тут яна...
Вечна скача пліска
Ля вадзіцы блізка.

### НАШЫ СЯБРЫ

Снегіры, сінічкі,
Сыплю вам ппанічкі,
Крупак, крошак хлеба!
Вам жа мала трэба!
Ешце, любыя сябры!
Не ляціце ў лес, бары,
А жывіце у двары
Да вясенняе пары.
Вось для вас кармушкі,
Птушкі-шчабятушкі,
Нашы весялушкі!

„Ніва“
3.III.1985 г.

Міра Лукша

## ТЭЦЬКА

Прывезлі яго да нас з Рыбакоў, разам з мамай Мухай, жывой кароткахвостай рыжай суччай-факстэр'ерам. Пушысты клубочак з хвосцікам, нібы пярынка, качаўся, зачапляў катоў, цягаў па хаце боты і дзікаву шкуру, брахаў на ўсё: „Гэфт, гэфт, гэфт!"

Смешна выглядала яго шырокая клапцятая мордачка, роўна напалавіну чорная і белая, з жоўтым брывом на чорным баку.

Палюбілі яго ўсе — і людзі, і звяры. Нашы старыя сабакі былі ім захоплены і цэлымі днямі вучылі яго сабачаму рамяслу, дазвалялі сябе тузаць за вушы і качаць, як добрыя старэйшыя браты. Кошка Мурка, да якой сабакі адносіліся з вялікай пашанай, ветліва пазнаёмілася з ім, і з таго часу яны віталіся па-кашэчы: церліся галовамі.

Алінка назвала яго Тэцькам.

Сабака рос, як на дражджах, бегаў за нашым дзядзькам Андрэем, трымаў парадак на панадворку. На чужых брахаў, страшыў, але нікога не ўкусіў. Знаёмых вітаў гасцінна, асабліва радасна прымаў дзяцей.

Тэцька вельмі любіў усё маленькае. Ён ішоў да Мурчыных кацянят, клаўся на іхнюю пасцель, дазваляў ім, сляпым, лазіць па сабе, забаўляцца. Мурка сцярожылася, але не фыркала. Толькі цягнула мяне ў каморку, каб паказаць, і сама мяўкала здзіўлена.

Аднойчы наша курыца Бландзінка выседзела двое куранят. Наша мама пасадзіла іх пад рэшата і паставіла ў гародчыку. Побач з рэшатам зараз жа лёг Тэцька. Бывала, падніме ён лапаю рэшата, выпусціць куранят. Тое ходзіць, дзяўбецца, залезе сабаку на галаву. А калі адыдзецца трошкі — сабака падгарне яго лапай назад пад рэшата.

Пайшоў раз Тэцька з Муркай мышэй лавіць у поле. Якраз у жніво. І трапіўся сабака пад касілку — парэзала яна яму правыя лапкі. Мучыўся страшна. Людзі кажуць: здохне, дабіць яго трэба. Але дзеці не дазволілі, не далі Тэцьку. Давай яго лячыць. Перавязалі ножкі, пачалі паіць лякарствамі, прамываць балючыя раны. І выхадзілі сабачку. Пачаў ён уставаць, спачатку толькі на левых лапках, а пасля пачаў хадзіць і на чатырох. Бывала, ужо як здаровы стаў, забудзецца, стане і стаіць на левых нагах, задумаецца, загледзіцца, а людзям смех!

Вельмі ж наш сабачка любіў ездзіць на машыне. Бывала, прыедуць госці, а ён тут як тут — сядзіць ужо пры шафёры або ззаду ды ўсміхаецца сваёй шырокай бела-чорнай мордай.

І раптам прапаў наш сабачка. Мабыць, сеў у чужую машыну і паехаў. Кажуць, бачылі яго ў нейкай вёсцы, худога, змучанага, а можа шмат дзён не еў з жалю. Нехта казаў, што яго забілі. Але я не веру. Напэўна жыве недзе гэтае добрае, ласкавае стварэнне, якое любіла людзей і ўсё малое і бездапаможнае.

А можа з вас нехта бачыў нашага Тэцьку?

## Вучнёўская творчасць



### ДАРАГАЯ „ЗОРКА„!

*Я вельмі люблю чытаць „Зорку" і цешуся, калі яна да нас прыходзіць. Пасылаю табе сваё фота і апавяданне „Хітры заяц". Буду вельмі рада, калі Табе і чытачам спадабаецца. Мне 11 гадоў, вучуся ў 4 класе.*

*З сардэчным прывітаннем*
**Ларыса Андрэева,**
**член клуба „Дружба-не-разлівадой" у Мінску**

### ХІТРЫ ЗАЯЦ

Аднойчы з адным паляўнічым здарыўся гэткі выпадак. Пайшоў ён на паляванне. Праз гадзіну яго гончыя сабакі ўзялі след зайца і пачалі ганяцца за ім. Паляўнічы стаяў непадалёк ад тае паляны, куды гончыя загналі зайца.

Доўга чакаў паляўнічы. Нарэшце, не вытрымаў і пайшоў на паляну, але нічога не можа зразумець. Бегаюць яго сабакі паміж кустоў і вакол пнёў і не могуць разабрацца.

Нічога не разумеючы, паляўнічы ступіў на сярэдзіну паляны. Выпадкова глянуў у бок ды так і абмёр: у пяці кроках ад яго, шчыльна прытуліўшыся да пня, сядзеў перапалоханы зайчык і, утаропіўшыся сваімі вочкамі проста ў паляўнічага, быццам прасіў:

„Не выдавай мяне сабакам!"

Сорамна зрабілася паляўнічаму забіваць безабароннага звярка. Апусціў чалавек стрэльбу, адклікаў гончых і сказаў:

— Пойдзем іншых зайцаў шукаць, а гэты цяжкі экзамен на хітрасць вытрымаў. Няхай цяпер жыве, сваіх зайчанят розуму вучыць.

І. Ягорычаў

## ГУМКА

*Пакуль дзеці выходзілі з класа на перапынак, Валерык паспеў падрыхтаваць да ўрокаў малявання альбом, алоўкі, лінейку... А дзе ж гумка? Не аказалася яе ў сумцы. Валерык узняў галаву і ўбачыў гумку на суседняй парце. Агледзеўся, схапіў яе і — у кішэнь.*

*Пачаўся ўрок. Раптам Сашка з суседняй парты крыкнуў на ўвесь клас:*

*— У мяне прапала гумка!*

*Настаўніца спытала ў дзяжурных:*

*— Успомніце, дзеці, хто на перапынку заходзіў у клас?*

*— Валерык.*

*— Я не браў, — ціха сказаў Валерык і пачырванеў да вушэй.*

*— Няхай пакажа сумку, — запрапанаваў Віця.*

*— А калі ён і сапраўды не браў, што тады? — спытала Лена.*

*Сцярпець такога Валерык больш не змог і з цяжкасцю сказаў:*

*— Вось яна...*

*Усе глядзелі на Валерыка. Нарэшце Лена падышла да яго, паклала на парту сваю гумку і сказала:*

*— На, у мяне іх дзве. Толькі больш ніколі так не рабі. Ці ж мы не падзелімся з табой!?*

## Вясёлы куточак

* * *

Юрка расказвае Янку:

— Ведаеш, у мінулую суботу я ехаў поездам у Беласток. Сядзеў тварам насустрач да кірунку язды. І мне разбалелася ад гэтага галава.

— Дык трэба было папрасіць суседа, каб памяняўся з табою месцамі.

— Гэтага не можна было зрабіць. Я ехаў у купэ адзін, — адказаў Юрка.

* * *

У адным высокім доме сапсаваўся ліфт (вінда). Праз нейкі час на ўсіх паверхах ля яго паявіліся таблічкі: „Найбліжэйшы ліфт знаходзіцца ў суседнім доме".

* * *

Раззлаваная настаўніца пытаецца ў Толіка, чаму ён штодзень спазняецца ў школу. Толік ахвотна выясняе:

— Я з дому выходжу заўсёды рана, але па дарозе іду каля табліцы, дзе напісана: „Увага, Школа! Зменш хуткасць!" А я навучаны кожны загад выконваць.

* * *

Настаўніца расказвае дзецям аб іх горадзе. Стараецца вытлумачыць, як змяніўся іх горад за апошнія дваццаць гадоў. Колькі новых дамоў пабудавана, колькі школ, прадшколляў, крамаў, бальніца. Потым пытаецца ў дзяцей, хто яшчэ можа назваць, чаго не было ў іх дваццаць гадоў назад.

Тут устае Марылька і кажа:

— Мяне яшчэ тады не было. Я нарадзілася адзінаццаць гадоў назад.

### ·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·

− 2 = 5

\+ = 11

× = 32

Падумай і ўстаў адпаведныя лічбы замест кветачкі, грыбка ці жолуда. Якія гэта лічбы?

## Пазнаёмімся

Аня Трафімюк, вучаніца восьмага класа, в. Слівова 203, пошта 17-208 Клейнікі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Зоя Стахвіюк, вучаніца шостага класа, вёска і пошта Клейнікі 17-208, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Галіна Федарук, вучаніца шостага класа, Клейнікі, 117, пошта 17-208 Клейнікі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 309740, Белгородская обл., п. Ровеньки, ул. Кирова, д. 13. Антоненко Тане. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

СССР, 340120, г. Донецк-120, ул. Петровского 101, кв. 120. Гулова Оксана. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 340120, г. Донецк-120, ул. Петровского, 95, кв. 29. Корж Лене. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Безымянная, 22/33. Демирчан Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 231960, г/п Свіслач, вул. Камсамольская, 33. Пагоскай Олі. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 187500, Ленинградская обл., г. Тихвин, 1-18-6. Ильюшиной Жанне. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

БССР, 211724, Віцебская вобл., Докшыцкі раён, п/а Гнязздзілава. Маркевіч Людзе. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 64. Таня Горава, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 1, кв. 6. Вольга Баёк, вучаніца 9 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51, кв. 11. Лена Клышынская, вучаніца 8 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 94, кв. 22. Лена Казакевіч, вучаніца 4 класа.

(Працяг са стар. 9)

### БАКСЁРСКІЯ РУКАВІЦЫ

глянуў на балкон. На балконе нікога не было.

І радасць, ні з чым не параўнальная радасць ахапіла яго.

Вядома, ён адразу не зрабіўся адважным. Так не бывае.

Але калі баязлівец упершыню перамог свой страх, адчуў, што і ён на нешта здольны і адважыўся на самы, здавалася б, малаважны крок, дык не такі ўжо ён і баязлівец.

На наступны дзень Валік ішоў у школу вясёлы і радасны. І не было ў яго душы ніякай боязі.

Майка і Марынка ўжо сядзелі за партай і аб нечым, як заўсёды, шапталіся. Убачыўшы Валіка, яны хітравата ўсміхнуліся. І ў іх поглядах было нешта новае. Можа, усё-такі яны бачылі!

Эх, як добра быць не з заячай душой...



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowsk... 1

3 чаго смяюцца суседзі

## МЕТАМАРФОЗА

Мне перадалі тэлефонную трубку.

— Ты чаго сядзіш на рабоце, ёлуп? — прагрымела ў трубцы. — У цябе дома няма, ці што? Адна нага — там, другая — тут.

Кароткія гудкі далі зразумець, што з жонкай жарты дрэнныя. Зірнуў на гадзіннік: працоўны дзень сапраўды закончыўся.

Начальнік змены са спачуваннем паглядзеў на мяне:

— Добра, ідзі, Мухін. Заўтра давядзём справу да канца.

Не паспеў адчыніць дзверы сваёй кватэры, як у жончыных руках захадзіла швабра. Давялося, як і ў мінулы раз, падмятаць падлогу, трэсці ходнікі, чысціць бульбу.

Назаўтра тое ж. І праз дзень, і праз тыдзень. Пакуль...

— Алё! Гэта цэх? Паклічце, калі ласка, Івана Іванавіча. Што, ён заняты цяпер? Тады перадайце яму, што званіла жонка.

— Нешта палавіна твая сёння лагодная, — сказаў начальнік змены. — Чым гэта растлумачыць?

— Сёння ж у нас палучка!

Начальнік змены насупіў бровы, нічога не сказаў, а толькі цяжка ўздыхнуў. Я зразумеў: у яго — тое ж!

**Рыгор Прудоўскі**



На нафту напароўся.



— А гэтыя маскоўскія вырабы мы адправім у Сібір.

# НУКА



## У ПСІХІЯТРА

— У мяне такое ўражанне, што ўва мне цэлыя дзве асобы. Здаецца, я хварэю раздваеннем асобы, — скардзіцца пацыент.

— Нешта я вас не зусім разумею, — гаворыць доктар. — Вытлумачце мне яшчэ раз. Толькі не гаварыце, калі ласка, абое адначасова!

## ПРАЦАЎНІК

Дзядуля пытае трохгадовага Андрэя, які сапе, спяшаючыся зашпіліць боты.

— Куды гэта вы ўсе спяшаецеся?

— На працу.

— І ты?

— І я.

— А дзе ж ты працуеш?

—У дзіцячым садзіку. Дзіцём.

## ПУПСІК

— Дарагая, — мармыча муж праз сон, — выключы тэлевізар, падрыхтуй пасцель і прынясі мне кубачак чаю.

— Не магу, мой пупсік, — адказвае жонка. — Мы ў кінатэатры.

## ЖОНКА ПАКАЖА

Кастусь, які ледзь трымаўся на нагах, пытае ў суседа:

— Ці ж праўда, што я стаю, а зямля круціцца?

— Праўда.

— А чаму ж я не бачу?

— Як дапаўзеш дадому, сам адчуеш.

## ПЕРШЫ АБЕД

— Ну як, мілы, смачна? — пытае маладая жонка свайго мужа пасля першага згатаванага ёю абеду.

— Нядрэнна. Аднак на другі раз не забудзь да солі дадаць крыху супу.

Займаўся творчым пошукам — шукаў ветру ў полі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сварацца суседкі.

— Падумаеш, ваша дачка „ўдачна выйшла замуж"! — ядавіта гаворыць адна з іх.

— Ды вы лопнулі б ад зайздрасці, калі б даведаліся, ад якіх людзей наша дачка атрымлівае аліменты.

*

Ва ўнівермазе кліент купляе набор іголак.

— Вы хочаце заняцца шыццём? — пытае прадаўшчыца.

— Не. Я звычайна глытаю шпагі, але зараз на дыеце.

*

Гутараць дзве сяброўкі:

— Учора я бачыла, як аўтобус ледзь не задушыў трубачыста!

— Трэба ж! Ужо і па дахах аўтобусы пусцілі!

## ПРАВУЧЫЛІ

Вушамі водзячы, Асёл
Асфальткаю ў поле ішоў.
Аж бачыць: спераду аўто,
Ішло машын там, мабыць сто.
Асёл ім стаў наперарэз:
Ні з месца ён,
нажом хоць рэж.
Яму сігналілі, махалі,
Каб той убок крыху адчаліў.
— Хіба тады б я быў Асёл,
Каб кожнаму убок сыхоў?
На ўпартага знайшлі ўправу:
Яго спіхнулі у канаву.

. . . . . . . . . . . . .

Сустрэне кожнага асліны лёс,
Хто будзе супыняць агульны воз.

**Андрэй Лешчанка**

## З „Весніка Задрыпоніі" ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Як вядома, у фінале ўсіх цудоўных сцэнічных твораў Шэкспіра мы бачым трыпяць трупаў. А вось у яго ж п'есе „Дванаццатая ноч" вялікага драматурга спасцігла творчая няўдача — п'еса канчаецца, а мы не бачым ніводнага забітага. (З лекцыі д-ра габ. Драмовіча).

## ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫТАЦЬ

Салаўя байкамі не кормяць. А салаўіху?



Без слоў.

— Памятаеш, у школе ты сядзеў за мною і ўсё калоў мяне шпількай.

## Курёзы

## КАРОВА ПАГАДЗІЛА

Гарадскі савет іспанскага горада Сантандзер прыняў рашэнне ўзвесці для ансамбля на цэнтральнай плошчы велічны помнік. Але паўстала істотнае пытанне: каму яго прысвяціць? Кіраўнікі розных палітычных партый і грамадскіх арганізацый доўга спрачаліся: каго з іх лепшых кандыдатаў увекавечыць такім чынам? І такі не прыйшлі да згоды. Тады нехта прапанаваў геніяльную ідэю: паставіць на п'едэстале бронзавую... дойную карову, бо прадукцыя гэтай жывёлы з'яўляецца асноўнай крыніцай дабрабыту як горада, так і навакольных вёсак. І ўсе пагадзіліся.

## І СТАРЫ СПОСАБ НЕ ПАМОГ

Калі два гады назад у Судане адрадзілі сярэднявяковае ісламскае заканадаўства, то на пачатку адзінаццаць злоўленых зладзеяў пазбавіліся кісцяў правых рук. А крадзяжы працягваюцца, хоць зараз ампутуюць левыя ногі.

## МІНІСТР-КАНТРАБАНДЫСТ

Не так даўно дзяржаўны міністр пры канцылярыі першага віцэ-прэзідэнта С'ера Леонэ, член парламента Чарно Маджу быў схоплены, як кажуць, за руку, калі імкнуўся кантрабандай вывезці за рубеж 12 унцый самародкавага золата, 27 тысяч амерыканскіх долараў і іншую валюту.




Калі б нас судзілі за шкоду, якую мы прычыняем самі сабе, дык толькі нямногія пазбеглі б шыбеніцы.